

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 32 (571) 21 ЖНІЎНЯ 2002 г.

## *Краіна, не даруй!*

*Мая краіна, ты даруй мне ўсё.*
*Даруй маё жаданне быць шчаслівай,*
*У час, калі з усходу прэ звяр'ё*
*І разам з хеўрай здраднікаў звяглівай*
*Твае святыні змешвае з гразёй...*
*Мая краіна, ты даруй мне ўсё.*
*Даруй маё маўчанне і цярпенне –*
*Не можа хрысціянскай быць любоў*
*Да зброду, што з халуйскім захапленнем*
*Сабаку кожнаму цябе прадаць гатоў.*
*Мая краіна, ты даруй мне ўсё,*
*Даруй мне звыклы страх майго народа,*
*Які на рабства моліцца свае,*
*Забыўшыся на славу радавода,*
*Што напляваў на мову,сцяг, зямлю і Бога...*
*Ды не!*
*Мая краіна!*
*Не даруй нічога!*

**Міхаліна Філітовіч,**
студэнтка Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

## Заява МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

15 жніўня 2002 г. Гарадзенскі абласны суд разглядзеў касацыйную скаргу рэдактара газеты "Пагоня" Міколы Маркевіча і супрацоўніка рэдакцыі Паўла Мажэйкі. Суд пацвердзіў папярэдні вырак суда Ленінскага р-на г. Гродна, хаця і зменшыў тэрмін пакарання Міколе Маркевічу і Паўлу Мажэйку. Бязспрэчна, гэта ёсць саступка вымушаная – пад націскам пратэстаў беларускай і міжнароднай грамадскасці. Аднак сама фармулёўка прысуду па крымінальным артыкуле 367-2 "Паклёп у дачыненні прэзідэнта" засталася нязменай.

Прэцэндэнтаў падобных спраў у Беларусі яшчэ не было. Некалькі распачатых у нядаўнім часе спраў "за знявагу гонару" былі ціха спыненыя. У гістарычным кантэксце ўзгадваюцца справы "за знявагу яго вялікасці" па фактах пашкоджання партрэтаў цара ў часы першай расійскай рэвалюцыі 1905-1907 гг. і прысуды "троек" часоў сталіншчыны за любое неасцярожнае слова у адрас "бацькі ўсіх народаў".

Прысуд журналістам "Пагоні" ёсць працяг пераследу газеты. Адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў яна была забаронена ўладамі. Усе спробы калектыву рэдакцыі аднавіць выданне, альбо зарэгістраваць новае пад любымі надуманымі адгаворкамі, адвяргаліся.

Абвінаваўчы прысуд, вынесены такім чынам, ставіць пад пагрозу гарантаваную Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека свабоду слова, права грамадзян на атрыманне праўдзівай інфармацыі.

Мікола Маркевіч з'яўляецца сябрам Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Нашая арганізацыя, статутная мэта якой – нацыянальна-духоўнае яднанне ўсіх беларусаў у адзіную супольнасць незалежна ад сацыяльна-палітычных перакананняў, але на грунце захавання нацыянальнай аўтэнтычнасці, роднай мовы і культуры, суверэнітэту і незалежнасці Беларускай дзяржавы, лічыць, што варункі вынясення прысуду і сам прысуд з'яўляюцца паспешнымі, памылковымі і недальнабачнымі судовымі крокамі. Бо ў канчатковым выніку яны скіраваны на раз'яднанне, а не на кансалідацыю нацыі. Больш таго, яны паглыбляюць раскол паміж нацыянальна свядомай інтэлігенцыяй і дзяржавай. Беларусаў ва ўсім свеце непакоіць такі стан рэчаў на Радзіме. Таму МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына":

-выказвае пратэст у сувязі з асуджэннем журналістаў Міколы Маркевіча і Паўла Мажэкі, якое супярэчыць асноўным правам чалавека;

-настойвае на спыненні іх пераследу, перагляду ў вышэйшай інстанцыі і адмене несправядлівага прысуду.

16.08.2002 г.

## АНАСТАСІЯ СЛУЦКАЯ – актрыса тэатра імя Янкі Купалы



Святлана Зелянкоўская (на здымку) актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы зацверджана на галоўную ролю нацыянальнага кінапректу "Анастасія Слуцкая". Прыемна, што выбар прыйшоўся на менавіта беларускую таленавітую актрысу. На купалаўскай сцэне яна выконвае галоўныя ролі ў спектаклях "Чорная панна Нясвіжа", КІМ, "Паўлінка" і інш.

У паўнамернай кінастужцы актрыса будзе здымацца ўпершыню. Яна цудоўна валодае роднай мовай, і, магчыма, гэта натхніць рэжысёра зрабіць фільм, у аснове якога легенда з гісторыі беларускай зямлі, на беларускай мове.

**Фота Наталлі Аблажэй, БелТА.**



## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Коўган Сяргей, г.Менск - 1000
2. СШ № 2, педагагічны калектыў г. Менск - 18000
3. Анатоль Касінец, г. Менск - 1000
4. Вольга Іпатава, г. Менск - 4000
5. Уладзімір Бірулін, г. Менск - 3000
6. Петруковіч Васіль, г.Менск - 7000
7. Шышканава Еўдакія г.Нясвіж - 10000
8. Фурс Антон, г. Паставы - 5000
9. Незнаёмы - 1000
10. Беларус - 5000
11. Новікаў У. Н. - 1000
12. Казлоўская І. І. - 1000
13. Мілаш Л., Вільня - 5000
14. Глінская суполка Докшыц. р-на. -17000
15. Малаткова Л. Ю., г. Менск - 2000
16. Катляроў Ал-р., г. Слуцк - 1000
17. Міхась Пуцік, г. Слуцк - 2000
18. Чэчат Алесь, г. Менск, - 5000
19. Алесь Пархоменка, г. Мазыр - 20000
20. Пятро Гуд, г. Менск - 20000
21. Леанід Лыч, г. Менск - 5000
22. Белсвідравіна, г. Горадня - 300000
23. Мянчук, г. Менск - 5 дол. ЗША
24. Мясніков В. Т., г.Менск - 10000
25. Ліс Л., г. Менск - 1000
26. Холосаў, г. Менск - 5000
27. Доўгаль, г. Менск - 1000
28. Дзмітрыеў, г.Менск - 1473
29. Кабзар П., г. Менск - 1000
30. Веласхоў, г. Менск - 1000
31. Мазглуга, г. Менск - 1000
32. Красуцкі, г. Менск - 1000
33. Мурэліс, г. Менск - 1000
34. Мішанкоў г. Менск - 1000
35. Асіповіч, г. Менск - 1000
36. Незнаёмы, г.Менск - 10000
37. Талезць С. Ф., г. Гомель - 3000
38. Бароўскі Анатоль, г. Гомель - 2000

*Калі за адраджэнне мовы,*
*чытай, спадарства, "Наша слова"!*

## Прыйшоў час восенняй падпіскі!

Дарагія сябры! З прыемнасцю паведамляю Вам, што ў ліпені на "Наша слова" дадаткова падпісаліся 92 чалавекі. Спадзяёмся, што з 1 верасня іх будзе яшчэ столькі ці нават болей.

На днях Сакратарыят ТБМ выпісаў на 4 апошніх месяцы 17 асобнікаў газеты ў тыя раённыя бібліятэкі Беларусі, якія не мелі сродкаў для падпіскі.

Зараз нам разам варта паруліцца наконт падпіскі на апошні квартал гэтага года, асабліва ў першыя дні верасня, калі з'явяцца пасля канікулаў вучні і настаўнікі, студэнты і выкладчыкі. У першую чаргу я звяртаюся да кіраўнікоў усіх буйных структураў ТБМ, асабліва з Кобрына, Віцебска, Міёраў, Наваполацка, Шаркоўшчыны, Барысава, Клецка, Пухавіч, Салігорска, Жыткавіч, Калінкавіч, Мазыра, Дзятлава, Слоніма, Магілёва і Асіповіч, дзе падпіска на трэці квартал значна знізілася. Спадзяюся, што не будуць спаць у шапку і нашыя актывісты ў Менску, Горадні і Гомелі, бо, як я ведаю, надрахтоўчая праца тут ужа пачалася.

На працягу некалькіх нумароў мы друкуем падпісны квіток, які варта тэрмінова выразаць, пускаць у справу. Дык за працу, спадарства!

***З павагай, старшыня ТБМ***
***Алег Трусаў.***

Ф. СП - 1 **Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)
Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі / пераадрасоўкі | 1467 руб. / руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)
Каму ______ (прозвішча,ініцыялы)





Генадзь Бураўкін

# Паўтарэнне пройдзенага

Вось мы і атрымалі першую прадукцыю славутага касцяноўскага холдынга – "здвоеныя" (7-8) нумары часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Крыніца" і "Нёман" за гэты год.

У "Маладосці" і "Нёмана" новы фармат, усюды грунтоўна ператрэсеныя, а то і проста нанова прызначаныя рэдакцыйныя саветы ( у "Маладосці" – рада), на апошніх старонках (у "Нёмане" – на вокладцы) рэкламныя і праграмныя звароты галоўных рэдактараў да чытачоў. Быццам бы і сапраўды ў традыцыйна кансерватыўнае і непаспешлівае жыццё салідных літаратурных выданняў прыйшлі рашучыя арганізацыйныя перамены, а значыць: павінен кардынальна абнавіцца і яго змест. Але колькі ні гартаў я старонку за старонкай, колькі ні ўчытваўся ў часопісную прозу і паэзію, крытыку і публіцыстыку, нідзе так і не знайшоў нават следу "рэканструкцыі", абяцаных мастакоўскіх адкрыццяў: у большасці сваёй – сярэднія, "прахадныя" публікацыі, знаёмыя імёны. Звыклая, правінцыйная вёрстка... А колькі ж было прыгожых дэкларацый і самога С. І. Касцяна, і ягоных амбіцыйных намеснікаў і памагатых, колькі грому і маланак абрынулася з ідэалагічных вышыняў на пасівелыя галовы былых кіраўнікоў і супрацоўнікаў рэдакцыйных калектываў! Як гарэлі праведным гневам праніклівыя вочы "рэфарматараў", як ажно перахоплівала ў іх дыханне, калі заводзілі яны гаворку пра мізэрныя тыражы і абмежаванае кола аўтараў!...

Гляджу на лічбы ў выхадных дадзеных – тыражы тыя ж самыя. Шукаю новых, несправядліва адціснутых ад часопісных старонак Сяргеем Законнікавым, Генрыхам Далідовічам, Алесем Жуком і Алай Канапельскай прозвішчаў – і не знаходжу: даўно прызнаныя Іван Шамякін, Янка Сіпакоў, Андрэй Федарэнка, Марыя Вайцяшонак, Уладзімір Гніламёдаў. Хіба што вялікімі публікацыямі напомнілі аб сабе "начальнікі": Мікола Мятліцкі – галоўны рэдактар "Полымя", Віктар Праўдзін – ягоны намеснік, Віктар Шніп – намеснік галоўнага рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва". Ды гэта, вядома ж, прыкрая выпадковасць, крыўдны недагляд недасведчаных яшчэ капітанаў часопіснай флатыліі, бо ўсе яны не навічкі ў літаратурнай творчасці і маюць не толькі сяброўскія білеты Саюза беларускіх пісьменнікаў, а і афіцыйныя адзнакі прызнання сваіх здольнасцяў...

Сумна і трывожна зусім не ад гэтага, а ад таго, што збіраюцца рабіць, мяркуючы па заяўленых планах, новыя кіраўнікі флагманаў нашага літаратурнага працэсу. У айчыннай гісторыі (у той ці іншай форме) гэткае ўжо было. Было, што збіраліся скінуць з "карабля сучаснасці" Пушкіна. Было, што аб'яўлялі "прызыў ударнікаў у літаратуру". Было, што ўсе газеты і часопісы друкавалі "гістарычныя" і "бессмяротныя" творы "геніяльных" генсекаў. Было... Пасля, праўда, многім нават сур'ёзным людзям даводзілася няёмка апраўдвацца і хаваць вочы ад дзяцей і ўнукаў. А Пушкін і Купала заставаліся. А "ўдарнікі" ціха сыходзілі ў нябыт. А з генсекаў – "пісьменнікаў" злосна здзекаваўся і дружна пацяшаўся ўвесь свет. І ўспаміналі з удзячнасцю гады рэдактарства ў "Новом мире" Аляксандра Твардоўскага, а ў "Маладосці" Пімена Панчанкі, і перачытвалі не "Цаліну" і "Малую Землю", а "Ціхі Дон" і "Людзей на балоце", апавяданні Янкі Брыля і аповесці Васіля Быкава... Было! Нават яшчэ пры памяці "бацькоў" холдынга. Але што зробіш, калі не толькі ў жанчын быая кароткая, паслужллівая і пераменлівая памяць!...



Як даўняга падпісчыка і шматгадовага супрацоўніка літаратурных выданняў мяне проста ашаламляе не абы якая смеласць новых рэдактараў. Кажу гэта без аніякай іроніі. Сеўшы ў не такія ўжо і зайздросныя кіраўнічыя крэслы, яны тут жа адмовіліся ад паслуг паважаных кансультантаў і дарадцаў – рэдакцыйных калегій. Ім аказаліся непатрэбныя і нецікавыя думкі і падказкі Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча, Аляксея Дударава і Васіля Зуёнка, Івана Пташнікава і Уладзіміра Дамашэвіча, Дзмітрыя Бугаёва і Анатоля Клышкі... Я, паверце, добра стаўлюся да Уладзіміра Саламахі і Вольгі Куртаніч, Юрыя Сідарава і Тамары Мазур, але іхні "часопісны" досвед і аўтарытэт выдавочна прайграюць у параўнанні з дасведчанасцю тых, каго я назваў раней. Ну але хай ім Бог дапамагае...

Сведчаннем надзвычацнай беднасці рэдакцыйных партфеляў "абноўленых" выданняў сталі, так бы мовіць масавыя перадрукі ў сёмых-восьмых нумарах. У "Полымі" гэта некаторыя з э"Начных успамінаў" Івана Шамякіна, у "Маладосці" - аповесць Уладзіміра Караткевіча "Ладдзя роспачы", у "Нёмане" – раман Аляксандра Праханава "Пан Гексаген", у "Крыніцы" – ажно 25 вершаў Янкі Купалы. Зроблена гэта быццам бы пад надзейным "прыкрыццём": юбілей класіка, знаёмства з "бестселерам XXI стагоддзя", жаданне дапамагчы школе з пазакласным чытаннем. Але ўвесь гэты каляровы "маскхалат" шыты суровымі белымі ніткамі – у рэдакцыях няма запасу цікавых матэрыялаў. Справа ўся ў тым, што многія таленавітыя і папулярныя пісьменнікі, паэты, публіцысты забралі свае творы з разгромленых холдынгам рэдакцый і наўрад ці прынясуць туды нешта новае. А гэта адгукнецца і адгукаецца ўжо збядненнем зместу часопісаў і прыкметным зніжэнем іх прафесійнага ўзроўню. У сувязі з гэтым я не магу не пагадзіцца з запісам у дзённіку Эдуарда Скобелева, цяперашняга самага "правільнага" і ўплывовага аўтара "Нёмана": "Не тапчы і не прыніжай таго, хто здаецца табе ворагам, - быць можа, гэта адзіны, хто скажа праўду, пашкадуе і злітуецца ў судны час". І далей: "Як толькі загіне іншадумства, загінуць і вялікія нацыі, і іх культура..."Што гэта – абстрактны філасофскі роздум ці мудрае папярэджанне самому сабе і сваім залішне актыўным і непрымірымым аднадумцам?

Ведаеце, я веру ў шчырасць новых галоўных рэдактараў, калі яны гавораць аб жаданні "надаваць... новае аблічча, сугучнае часу", часопісам, "друкаваць творы, якія, не абражаючы годнасць беларускага народа, закрануць многія праблемы сучаснага жыцця, стануць духоўнымі арыенцірамі для ўсяго грамадства", калі збіраюцца "апраўдаць усе... спадзяванні", "каб часопіс не сорамна было ўзяць у рукі". Вось толькі не веру я, што ўсё гэта яны сапраўды зробяць, бо першае ўражанне часцей з ўсё – самае яркае і праўдзівае, а яно, пасля знаёмства з летнімі нумарамі "Полымя", "Маладосці", "Крыніцы" і "Нёмана", мякка кажучы, невясёлае. Дужа густа са старонак шаноўных выданняў патыхае тванню застойных часоў, цвіллю аднастайнасці і бяскрыласці...

Некалі вельмі модны быў лозунг: "Паўтарэнне – маці вучэння". Можа ён правільны і дасюль. Але, думаецца, толькі для тых, хто хоча і здольны вучыцца і не збіраецца па некалькі гадоў сядзець у падрыхтоўчым класе цывілізацыі...

## Кіраўніцтву кампаніі "Кірхмедыя"

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выказвае кіраўніцтву кампаніі "Кірхмедыя" шчырую падзяку за праяўленую прынцыповаць падчас заключэння дамовы з Дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй Рэспублікі Беларусь на права трансляцыяў матчаў чэмпіянату свету па футболу. Дзякуючы Вам беларусы атрымалі магчымасць пачуць роднае беларускае слова на нацыянальным канале тэлебачання.

У нашай краіне стварылася ўнікальная сітуацыя. Падчас перапісу насельніцтва 1999 года 73,6% грамадзян дзяржавы назвалі сваёй роднай мовай беларускую. Нягледзячы на тое 97% тэлетрансляцый ажыццяўляюцца на рускай мове. Нацыянальная тэлерадыёкампанія Беларусі мэтанакіравана скарачае час вяшчання на беларускай мове. Сёння беларускія дзеці пазбаўлены магчымасці глядзець дзіцячыя перадачы, мультфільмы і фільмы на роднай мове. Такім чынам ствараюцца ўмовы, калі маладое пакаленне не чуе ў тэлеэфіры роднай мовы. Ужо зараз менш за 30% дзяцей карыстаецца беларускай мовай, што вядзе да яе знікнення. У інфармацыйнай прасторы краіны бязмежна ўладараць тэлекампаніі Расійскай Федэрацыі. Такім чынам ажыццяўляецца не інфармацыйны абмен, а моўная экспансія рускай мовы, што вядзе да асіміляцыі беларусаў.

Таму для грамадзян краіны было вельмі важна, што кампанія "Кірхмедыя", як прадстаўнік цывілізаванага еўрапейскага бізнесу, улічыла рэальную моўную сітуацыю ў Беларусі і падтрымала беларускамоўную супольнасць нашай краіны. І хаця Дзяржаўная тэлерадыёкампанія Беларусі не да канца выканала свае абавязацельствы па кантракце (трансляцыі некаторых матчаў, ў тым ліку і фінальнага, вяліся з выкарыстаннем рускай мовы, а штодзённыя аглядныя перадачы з чэмпіянату вяліся, як правіла, па-руску) беларусы адчулі дух еўрапейскай салідарнасці, дапамогу ў справе захавання роднай мовы на сваёй этнічнай тэрыторыі.

Зараз Таварыства беларускай мовы і шэраг іншых грамадскіх арганізацый вядзе працу па стварэнні беларускамоўнага спадарожнікавага тэлевяшчання і будзе шчыра ўдзячнае супрацоўніцтву з кампаніяй "Кірхмедыя".

З павагай

**Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны** **Алег Трусаў.**

## У ЦЭНТРЫ МЕНСКА АДКРЫВАЕЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ГІМНАЗІЯ

Навая гімназія размесціцца ў будынку школы № 23 (праспект Скарыны, 45, насупраць крамы "Лянок"). Будынак – адзін з нямногіх, які захаваўся ў сталіцы з даваенных часоў. Ён з самага пачатку, у 1936 годзе, будаваўся як навучальная ўстанова і заўсёды быў верны свайму прызначэнню. Прасторныя, светлыя класы, сцены якіх захоўваюць цяпло зімой і прахалоду летам, у іх нават без шклопакетаў не чуваць гарадскога шуму. Дзесяць гадоў таму былі прыбудаваны яшчэ два карпусы – спартыўныя і актавая залы, сталовая-кавярня, якую называюць лепшаю сярод школьных сталовых, сучасныя майстэрні.

Дырэктар гімназіі Ніна Іванаўна Нікіціна мае досвед стварэння адукацыйнай установы новага тыпу. Дзевяць гадоў таму, будучы завучам, яна разам з Казімірам Фарынам адчыняла політэхнічную гімназію № 6. Сёння Ніна Іванаўна намерана выкарыстоўваць ідэі, якія нарадзіліся і былі праверaны часам пры стварэнні першых гімназій у пачатку 90-х ўлічваць досвед нацыянальных гімназій свету:

*- Мы знайшлі ў інтэрнэце ўсю магчымую інфармацыю пра нацыянальныя гімназіі. Канешне, мы яшчэ знаходзімся ў пошуку, але я ведаю адно: гэтую прастору напоўніць класічны змест класічнай гімназіі. Гімназія адрозніваецца ад школы не толькі больш высокім узроўнем адукацыі, але і большай увагай да выхавання дзяцей, асаблівай атмасферай, традыцыямі.*

Па меркаванні дырэктара, для таго, каб задуманае атрымалася, неабходны тры галоўныя ўмовы: жаданне калектыву нешта зрабіць, давер бацькоў і давер гарадской і раённай улады да ідэй настаўнікаў. Пакуль у новай беларускай гімназіі ёсць і першае, і другое і трэцяе. За мінулы год з 70 настаўнікаў трыццаць чатыры павысілі сваю кваліфікацыю. Ёсць пажаданне бацькоў мець беларускамоўную навучальную ўстанову, да якой было б зручна дабірацца з любога кутка горада. Гарадскія ўлады ўжо выдзелілі 400 мільёнаў рублёў на капітальны рамонт будынка.

*- Гэта адзіная з сярэдніх навучальных установ сталіцы, якая знаходзіцца на цэнтральным праспеце, - падкрэсліла намеснік кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёна горада Менска Людміла Шыпай. – Лагічна і цудоўна, што гэта менавіта беларускамоўная гімназія. Адміністрацыя раёна зробіць усё магчымае, каб Нацыянальная гімназія выглядала годна.*

У Савецкім раёне Менска ёсць школы з беларускамоўнымі класамі, але няма ніводнай цалкам беларускамоўнай школы. Разам з тым, запэўніў загадчык аддзела адукацыі Віктар Коршыкаў, жаданне бацькоў у стварэнні такой навучальнай установы ёсць, таму адкрыццё гімназіі – вялікая падзея для мікрараёна.

Гэта падзея значна большага маштабу. Старшыня Камітэта па адукацыі і справах моладзі Менгарвыканкаму Міхаіл Ціцянкоў упэўнены, што лепшага меца для Нацыянальнай гімназіі не знайсці, не толькі таму, што гэта цэнтр горада, паблізу метро і моцныя транспартныя развязкі:

*- Гімназія з'яўляецца працягам Плошчы імя Якуба Коласа, калі ісці з Усходу, і пачаткам – калі ісці ў адваротным кірунку. Гэта вельмі сімвалічна. Але не толькі вонкава будзе прыкметна гэтая навучальная ўстанова. Справай гонару лічу для сябе дасягнуць, каб Нацыянальная гімназія склала канкурэнцыю лепшым* рускамоўным гімназіям Беларусі.

Педагогі і чыноўнікі разумеюць, што праблему беларускай мовы не вырашыць, стварыўшы самую найлепшую нацыянальную гімназію. Важна, каб валоданне беларускай мовай было запатрабаванае ў вышэйшых навучальных установах. Магчыма, стварэнне не проста "яшчэ адной", а некалькіх беларускамоўных гімназій, якая задумваецца як узор нацыяналлнай школы, паўплывае на тое, каб з'вілася і беларускмоўная ВНУ.

Пераход цалка на беларускую мову ў новастворанай гімназіі будзе павольным. Сёння там захоўваюцца рускамоўныя класы, якія існавалі дагэтуль. Прымаюцца дзеці ў беларускамоўныя падрыхтоўчыя класы, якія будуць знаходзіцца на базе садка. У гімназійныя пятыя-шостыя могуць паступаць дзеці, як з беларускамоўных, так і з рускамоўных пачатковых школ. Педкалектыў ставіць мэту паступова навучыць дзяцей аднолькава свабодна валодаць абедзвюма дзяржаўнымі мовамі, акрамя таго, па выбару бацькоў, дзеці будуць паглыблена вывучаць нямецкую альбо англійскую мову з 5-га класа. Дадаткова – адну са славянскіх моў. Перыяд адаптацыі да беларускай мовы – тры гады.

*- Мова не павінна існаваць дзеля мовы. Яна павінна быць носьбітам каштоўнасцяў культуры, навукі, насьбітам духоўнасці, - кажа Ніна Іванаўна. – Мне вельмі падабаецца тэрмін "білінгвальнасць", гэта нават не білінгвізм, а нешта больш шырокае. Калі дзеці не проста ведаюць абедзьве мовы, а лёгка, без псіхалагічнага напружання і адчування дыскамфорту могуць карыс*тацца абедзвюма мовамі.

Канчаткова профіль гімназіі пакуль не вызначаны, ясна, што гэта будзе лінгвістычная гімназія. У чым, акрамя моў, будуць моцныя яе выпускнікі, вырашаць напачатку гэтага навучальнага года самі гімназісты, іх бацькі і настаўнікі.

*Вольга Мядзведзева.*

*Бестсэлеры фанаграфіі*

# Канцэптуальная бомба сіньёра Памідора

Аляксандр Памідораў "Свята пакрадзенае", Мн., 2002, PRL productions

На паліцах музычных крамаў гэты прадукт, бадай, адзін з самых непрыкметных. Ну што чакаць ад дыска, упрыгожанага сціплым фотавідарысам савецкай каменнай публіцыстыкі? Але варта патрымаць СД ў руках, паразглядаць "карцінкі", пачытаць тэксты ў буклеце, і вы адчуеце такі магутны націск на сваё падсвядомае *эга*, што міжволі захочацца паслухаць музыку, а там... такі эмацыйны і інтэлектуальны прэсінг - толькі трымайся.

Пачнём, аднак, з "карцінкі". Гэта занесеная снегам каменная скульптура – нібыта як звыклая згадка савецкай рэчайскасці. Але што гэта, чаму не сагравае душу рамантычны вобраз каменнага гарніста? Ну не толькі ж з-за снегу! Проста бетонныя цягліцы атлета патрушчыліся ад часу, пакрыліся тысячамі дробных зморшчынак. Сімвал трываласці – камень стаў і сімвалам пасіўнай нягегласці ў краіне пакрадзеных святаў.

Адчуваеце? Гэта ўжо пачатак асэнсавання канцэпцыі альбома. А яна значна больш грунтоўная, чым падаецца тым, хто знаходзіць у структуры альбома і знакаміты hardcoreгіт "Новы марш" са зборніка "Hardcoreманія: чаду!" і славутую публіцыстычную рэп-занатоўку "Крывавае свята" з альбома "Я нарадзіўся тут". Уновым рэлізе нават яны набылі не толькі новы кантэкст, але і новую стылістычную афорбоўку.

Стылістыку альбома адназначна гэтак і не ахарактарызуеш. Асабіста я, як даўні фанат "Led Zeppelin", знаходжу ў ёй водгалас залатой эры псіхадэлічнага hard-rocka, але нелmга не адмовіць тут і ўплывам punk-rocka, і колішняй new-wave, і нават класічных авангардыстаў. А супрацоўніцтва А. Памідорава з музыкамі "Zet" (С. Кbadановіч), "Уліс" (В. Корань, А. Быкаў), ды яшчэ з эпізадычнымі часткамі з гуртоў "Крыві", "Палац", "Post-scriptum" і нават камернага хора "Унія" падказвае найбольш дакладны тэрмін з лексікону сучаснай альтэрнатывы indic-rock Стыль найбольш гарманічнага яднання ўсіх плыняў рок-гісторыі апошніх 30-40 гадоў; жыва, дынамічна, змястоўна, пераканаўча, зухавата... Карацей, сугетыўна!.

Ключавым трэкам альбома многія лічаць загалоўны твор – "Свята пакрадзена". Ён хоць і стаіць дзесятым у праграме, але вельмі сімвалічны. Па-першае, вельмі ўзрушвае арыгінальная мелодыя А. Памідорава, нават больш за ягоную апрацоўку славутай "Immigkant song" Джымі Пэйджа з вершамі У. Караткевіча і Я.Купалы. Па-другое, арыгінальны тэкст сіньёра Памідора сам па сабе геніяльны нашчадак кранальных беларускіх народных прыпавесцяў, якія нават цытаваць не выпадае. Проста трэба слухаць. чытаць і асэнсоўваць.

І ўсё ж адназначнага лідэра трэк-спісу альбома я б называць не стаў. А куды ж дзенеце тады "Быць беларусам", у якім такі глыбокі культуралагічны кантэкст, і такі просты, даходлівы змест!

А "Нядзеля" – увогуле універсальны твор. Неяк я адчуў у ім бессэнсоўнасць пустапарожняга бавення часу ў краіне пакрадзеных святаў, а аднойчы напрост прыйшла пад песню згадка пра выбары, якія мы, народ, заўсёды прайграем. Бо, аддаўшы голас, не ўмеем яго абараніць.

***Да крывавай нядзелі***
***не дажылі –***
***Ну й добра!***
***Тэлевізар глядзелі,***
***размаўлялі***
***Пад коўдрай,***
***Выпівалі віно за "не",***
***А не, каб выпіць за "так"***

Што ні песня – то цэлы пласт эмоцый перажытага жыцця, які сплывае заўсюды міма ў тых, хто не навучыўся "слухаць сваё". Людзі нібыта жывуць, а ўсё шчасце людское, увесь сэнс жыцця ператвараецца ў нейкую "Пітную хату". Мо і сапраўды не зашкодзіла б "выпіць па куфліку піва", але не тым, хто не заўважыў. "як нас без нас прадалі". І застаецца ў "праблемных дзетак" краіны "пакрадзеных святаў" толькі адно – "Крывавае свята".

Як ні стрымліваўся ад банальнага цытавання, а ўсё ж паперла. Але не звяртайце ўвагі: усё гэта не апошняе рэзюмэ ў асэнсаванні альбома, а толькі мой прыватны настрой у пэўны момант. Будзеце слухаць, можа стацца так, што галоўнай для вас стане зусім іншая цытата. Напрыклад:

***Калі яна кахае,***
***дык і ты яе кахай,***
***Не крыўдуй на лёс.***
***Што б там ні казалі,***
***а будучыня ёсць!***

Зноў пераканваюся ў слушнасці класічнага выслоўя: сапраўда, выказаная ўслых, ёсць хлусня. Дык давайце не будзем чытаць хлусню і перадаваць хлусню іншым. Хочаш жывых жыццёвых эмоцый, дык бяры новы дыск Алеся Памідорава і слухай. Толькі ўвага: не блытаць з ягонымі ж "П'янымі гасцямі"!

***Вітаўт Мартыненка.***

**Вольга Шакаль**

## Незабыўнае лета

Наша вогнішча ўжо дагарае,
З глухім трэскам
згараюць дровы...
Ад'язджаем мы , ад'яджаем!
Да сустрэчы! палі, дубровы!

Гэтым летам мы разам спалі
На возеры Свіцязь,
дзе ветрык скалыхваў хвалі.
І зялёны глядзеўся ў яго,
Бы ў люстэрка, і марыў.

З залатога пяску і каменняў
Ля празрыстай вады на ўзгорку
Мы чароўны рабілі замак.
Ах, вяселля было ў гэтым колькі!

Мы купаліся ў вадзе і ныралі.
Абаваючы ўсіх сотняй пырскаў...
Зараз я ўзгадаю – мне сумна.
Гэта ўсё так далёка і блізка!

Мы былі ў Навагрудку і замак.
На высокай гары што стаіць,
Разглядалі мы, спрабавалі
Звязаць з мінулым старую ніць.

Глянеш уніз –
нават зробіцца страшна:
Як высока падняліся ўсе.
Дрэвы – тыя здаюцца кустамі,
Што схаваліся ў зялёнай расе.

Беларусь уся ляжыць на далоні
Цёплы ветрык кранае твой твар...
Бачыш вёскі ты, бачыш і поле...
У небе сонца гарыць, бы пажар.

Мы былі
і ў Нясвіжы, і ў Міры.
І на Нёмане ноч правялі.
У гэты тыдзень
мы бачылі столькі
Краявідаў нам роднай зямлі!

Наша вогнішча ўжо дагарае,
З глухім трэскам
згараюць, дровы...
Ад'язджаем мы ад'язджаем!
Да сустэчы, палі і дубровы!

## Восеньскі сад

Ціха-ціха ў садзе акном...
Промень сонечны
апошні засынае.
Уся прырода – гэта быцца дом.
І яна ўсе свае дзверы зачыняе.

Усё паветра прасякнута водарам
Спелых яблыкаў,
што ў садзе раслі
На тых дрэвах,
апранутых золотам,
Што, сабаўшы, дамоў прынясл.

Неба пафарбанана
ў розныя колеры:
Сіні, ружовы, бланітны...
Зірну на яго –
і ўзнікаюць тут вобразы...
Лета вясёлае знікла...

Лісце жоўтае кружыцца
ў паветры
І вянком здаецца залатым...
Прыгажэй што можа быць за гэта
Параўнаецца што
з колерам такім?

Толькі вовеньскі сягодня
ўжо дождж
Кропляй дробнаю
ляцеў з нябёс дадому.
Кроплі гэтыя, падобныя да слёз,
Усё звінелі, непатрэбныя нікому.

Сябравалі і з зямлёй,
халоднай уранку,
Падалі на верхавіны
жоўтых дрэў...
Усё хавалася
ў гэтым срэбным замку.
Колькі ўвечары суціх і гэты спеў.

І стаіць наш сад зусім адзіны.
Не патрэбны ён нікому да вясны.
Абляцелі яблыні, рабіны...
Будуць сніць
пад белым снегам свае сны!

**Шакаль Вольга,**
**вуч. гім. № 25 г. Менска, кл. 10.**

# *Адкупім радзіму ў галандцаў?*

"Троіца": "Журавы", Pan Records, 2001, Leiden (Sound Stream, 2002, Менск.

Ну вось, чацвёрты галандскі рэліз менскага этна-трыё "Троіца" нарэшце з'явіўся і дома прыстойным накладм на прыстойных носьбітах – СД. Першыя два, праўда, сяк-так скапькавала на касетах фірма "Bulba records" ("Troitsa", 1997 і "Спадчына забытых вёсак", 1999), але канцэртнік "Ocrol –99" (2000) так і застаўся недасягальным для нашых вушэй (вочы, праўда, чыталі рэцэнзіі ў прэсе).

Хацелася пачаць з радасцяў, якія нясе айчыннае перавыданне але пад увагу так і лезуць непрыемныя параўнанні. Ну ніяк не абыдзеш іх.

Дыхтоўны фірменны буклет, рэестр інструментарыя кожнай песні, процьма каларытных фотаздымкаў, элементарныя выходныя звесткі (кшталту каталогавага нумару фірмы, даты і месца запісу ды г. д.) бясследна зніклі на радзіме. Фанат, які купіць тут гэты прадукт, міжволі падумае аб крутых студыйных магчымасцях заштатнага менскага склада, які, беручыся за перавыданне нават з англійскай мовы на родную перакладае з памылкамі (блытаюць ***пугу*** з ***плёткай***, ***запіс*** з ***запісью***). Але не, запіс таксама зроблены не дома, а ў Нідэрландах (Sing-Sing-Studio, 2001, студзень). Там жа і тады ж яно і выйшла ў свет пад № PAN-196 СД. Аматары статыстыкі могуць зазначыць, што гэты нумар ад першага СД "Троіцы" ў Галандыі аддзяляе ажно 25 пазіцый, але чым яшчэ займаецца гэты лэйбл у Еўропе, нам ніколі не даведацца.

Імёны ўдзельнікаў "Троіцы" слухач знойдзе і ў айчынным выданні (гэта Іван Кірчук, Юры Дзмітрыеў і Юры Паўлоўскі). Але каб даведацца, што і мастацкая аздоба належыць бубнару Ю. Паўлоўскаму, трэба шукаць фірменную пермакрыніцу (дый сама паўната прыгажосці аздобы – толькі там). Спіненым і занатуем адтуль жа імёны саўндпрадзюсера (Martin S. Past), гукаінжынераў (Milan Ciric I Steue Frances), а за ўсё астатняе падзякуем нашым выдаўцам: усё 15 унікальных узораў экспедыцыйных запісаў фальклярыста Івана Кірчука перыяду 1984-96г.г. у эфектных і дасканалых сучасных аранжыроўках, якімі заслухоўваецца ўся Еўропа, нарэшце вярнуліся і на радзіму. І хоць некаторыя назвы пададуцца вам знаёмымі ("Добры вечар", "Не дай мяне, мамачка", "Добра тому, хто вячорак не знае"), але менавіта ў такой тэкставай і меладычнай інтэрпрэтацыі шырокая публіка наўрад ці іх чула.

Нават песня "Прыкракнула шэра вуціца", адкрытая публіцы самім І. Кірчуком на тым таямнічым канцэртніку, у студыйным варыянце гучыць па-новаму і парадуе адкрыццямі нават тых шчасціўчыкаў, хто здолеў паслухаць "Ocrol-99"/

Пільныя меламаны знойдуць агульныя радкі ў песні "Ой, бору мой" з вядомым трэкам Лявона Барткевіча "Ой, двору мой" (гл. альбом "Спявай мне, дзяўчынка", 1989, Electronova productions). Але гэта толькі радкі, якія не прэтэндуюць ні на стварэнне аднолькавага настрою, ні на агульную філасофскую канцэпцыю. Каларытны поп-дэнс славутага песняроўца ўсё ж саступае глыбіні эмацыянальных перажыванняў новай версіі.

Поўным адкрыццём для мяне асабіста, а разам і ключом да разумення, сутнасці творчасці "Троіцы" стала загалоўная песня альбома – "Журавы". Гэта лаканічная і вельмі змястоўная балада, малюнак з векавечнага пазачасавага беларускага асяроддзя. Тут і быт, і характар, і традыцыі, і ментальнасць.

Сваё разуменне ўсяго гэтага этна–трыё "Троіца" пераканаўча разгортвае і ў сваёй прадмове да выдання: "Ты быццам і тут, але свядомасць твая, твой Дух імчыцца ў коле календара".

Так сугестыўна ўздзейнічаюць гэтыя песні. І калі асэнсоўваеш іх, прыходзіць яснае ўсведамленне, чаму з беларускіх пап-зорак менавіта "Троіца", а не якінебудзь "Ляпіс..." ці "Лепры..." выдаюць у Галандыі вось ужо чацвёрты альбом .

***Вітаўт Мартыненка.***

Таццяна Бубенька (на здымку) - археолаг, кандыдат гістарычных навук, выкладчык асноў археалогіі і гісторыі матэрыяльнай культуры Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. М. Машэрава. Больш, чым 20 гадоў работы яна правяла нямала археялагічных экспедыцый, у час якіх даследавала сотні квадратных метраў зямлі ў выніку чаго знойдзена шмат унікальных і каштоўных экспанатаў.

**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 19. 08. 2002 г.
Наклад 2400 асобнікаў. Замова № 1532.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
***Кошт у розніцу:*** 120 руб.